ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ

Год выданьня 1-ы

Умовы падпіскі:

| | |
|---|---|
| На 1 месяц . . . | 15 к. |
| На 3 м-цы . . . | 45 к. |
| На 6 м-цаў . . . | 90 к. |
| На 1 год . . . | 1 р. 80 к. |

№ 3 Сьнежань 1929 г.

Адрас Рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25

## МЫ ВЫКАНАЕМ ЗАВЕТЫ ЛЕНІНА!




„ВУЧЫЦЦА, ВУЧЫЦЦА І ВУЧЫЦЦА“!— ТАКІ ГАЛОЎНЫ ЗАВЕТ ЛЕНІНА ПРОЛЕТАРСКІМ ДЗЕЦЯМ.

# ЖАЛОБНЫ ДЗЕНЬ

**1924** | **21-га СТУДНЯ** | **1930**

Роўна 6 год таму назад, 21-га студня, у 6 гадзін 50 хвілін вечара памёр правадыр працоўных усяго сьвету, тав. Ленін.



*Ленін маленькі.*

Памёр чалавек, які згуртаваў працоўных для барацьбы з царом і разам з імі ў Кастрычніку 1917 году перамог свайго ворага—цара, памешчыкаў, капіталістых.

Памёр чалавек, які заснаваў Камуністычную партыю і разам з партыяй нясупынна працаваў над тым, каб перабудаваць жыцьцё на новы лад.

Многа карысьці для працоўнага люду прынесла жыцьцё Леніна. Але раптоўная лютая сьмерць вырвала з радоў партыі самага лепшага з бальшавікоў—тав. Леніна.

Увесь Савецкі Саюз быў ахоплены вялікім нячуваным горам. Дзеці таксама добра ведалі пра Леніна. Сьмерць Ільліча была цяжкай для ўсіх, аб кім турбаваўся Ленін, за каго ён змагаўся. Дваццаць тысяч дэлегатаў ад працоўных з усіх канцоў Савецкага Саюзу паехалі ў Маскву хаваць свайго любімага правадыра і ўскласьці свае вянкі на труну Ільліча.

У нядзелю, 27-га студня, у 4 гадзіны дня хавалі Ільліча...

Усе працоўныя і іх дзеці прымалі ўдзел у пахаваньні. На 5 хвілін усюды была спынена работа. Фабрычныя гудкі, паравозы, гарматы паведамілі роўна ў 4 гадзіны аб тым, што Ільліча хаваюць...

Па жаданьню працоўных труну з т. Леніным паставілі ў Маўзалеі (знарок зробленым будынку). У Маўзалеі кожны можа пабачыць нябожчыка т. Леніна.

Кожны год працоўныя адзначаюць жалобны дзень 21-га студня—сьмерць любімага Ільліча.

Ленін памёр, але заветы яго няўміруючыя. Комуністычная партыя, комсамол, піонэры, акцябраты — вось спадчына Леніна. Працоўныя і іх дзеці давядуць да канца тое, што пачаў Ільліч,—яны створаць новае лепшае жыцьцё.

*ДЗЕЦІ АБ СЬМЕРЦІ ЛЕНІНА*

## СПЫНЕНЫ РУХ

**Бацька мой быў за вартавога на 102 вярсьце. Гэта было зімою. Ён вышаў сустракаць кур'ерскі цягнік, а я з маткаю застаўся дома. Раптам мы чуем трывожныя гудкі.**

**Мама напалохалася.**

**— Гэта, кажа, бацьку зарэзала машына. Заўсёды ён ля рэйкаў блізка становіцца. Колькі я яму казала...**



**Выбеглі з хаты. Стаіць ля нас кур'ерскі цягнік і гудзіць.**

**Падбеглі бліжэй — бацька стаіць жывы і здаровы, трымае руку пад казырок.**

**Як убачыў я ўсё гэта, дык і ўспомніў:**

**— Мама,—кажу,—зараз-жа 4 гадзіны... Спынены рух,—ЛЕНІНА хаваюць.**

**У лесе ад гудкоў шум. Адны пасажыры вышлі з вагонаў на сьнег, другія ў вокны глядзяць, усе бяз шапак і маўчаць.**

**І тут матка як загалосіць, усёроўна, як і сапраўды бацьку машына зарэзала...**

*С. Журыкаў*

# ЛЯ ТРУНЫ

ЛЕНІНА мы любілі. Некаторыя з нас нават бачылі яго жывога.

У дні сьмерці Леніна мы ўсе хацелі пабачыць яго ў апошні раз. Мы стаялі, ў чарзе ля Дому Саветаў ужо два разы і два разы бачылі Леніна. Я стаў і трэці раз. Нічога што мароз—больш ня прыдзецца бачыць Ільліча.

Але тут прышла мая матка і кажа:

— Што з табою зрабілася?! Ты ўвесь сіні! Ты-ж прастудзішся, хадзем дахаты!

Але я пачаў гаварыць ёй, што больш ня прыдзецца ўбачыць ЛЕНІНА.

Яна спрачаецца і я спрачаюся—глядзім аж мы падышлі ўжо да дзьвярэй.

Тады і матка пайшла са мною і мы разам прайшлі міма труны Ільліча.

Так мне ўдалося як сьлед разьвітацца з Леніным тры разы.

К. Кашырын



СТУДЗЕНЬ 9 1905 г.

# Крывавая нядзеля

Цяжка жылося тады працоўнаму люду. Працавалі рабочыя на фабрыках тады ад цямна да цямна, не разгінаючы плеч. А што мелі за гэта? Нікчэмныя грошы, за якія чалавек ледзь мог пажабрацку жывіцца. З працы рабочых карысталі багатыя—фабрыканты, чыноўнікі і цар.

Дзеці рабочых мерлі ад голаду ды холаду, як мухі. Каб збольшага накарміць дзяцей і сябе, рабочым патрэбна было больш зарабляць.

Але ці-ж хацеў фабрыкант больш плаціць рабочым? Не. Гэтага ніколі ня было і ня будзе.

Царскія слугі ўгаварвалі рабочых, што ня цар вінаваты ў іх горкім жыцьці. Гэта, казалі яны, чыноўнікі кепскія, дык яны ўсё круцяць.

Знайшоўся нават адзін поп Гапон, які падгаварыў ленінградзкіх рабочых ісьці да цара. Ён сабраў тысячы работнікаў, якія згадзіліся ісьці і прасіць цара, каб той даў міласьці і хлеба. Напісалі „пэтыцыю“ (просьбу), назьбіралі абразоў, узялі царскі партрэт і рушылі да палацу, дзе жыў цар Мікалай II.

Наперадзе ішоў сам поп Гапон.

Усе мелі надзею на цара: цар, думалі, прыветна спаткае рабочых і зробіць якую палёгку.

З гэтакай думкаю падыходзіў рабочы люд да царскага палацу. Але вышла зусім ня так. За некалькі крокаў ад царскага палацу рабочых спаткала войска. Цар загадаў страляць у рабочых. Град куляў пасыпаўся ў натоўп... Віхрам наляцелі на рабочых казакі з нагайкамі...

Калі натоўп людзей, праклінаючы і цара і Гапона з „сьвятымі“ абразамі, ачысьціў пляц, перад царскім палацам адкрыўся жудасны малюнак. Каля 6 тысяч забітых і параненых ляжала на чырвоным ад крыві сьнягу... І сярод гэтых забітых і параненых ня мала было маленькіх дзяцей. Дзеці таксама ішлі шукаць царскай „міласьці“.

Затое рабочыя ўжо больш ня верылі ў царскую дабрату. Яны гуртаваліся наўкола Комуністычнай партыі, наўкола тав. Леніна. І ў Кастрычніку 1917 г. рабочыя разам з сялянскаю беднатою самі здабылі сабе волю.

А тую нядзелю празвалі „крываваю нядзеляю“.



*Градам куляў сустрэў цар рабочых.*

# ХТО З ІХ ЛЕПШ РОБІЦЬ?

## ЯНКА



*Сядзіць Янка за чытанкай*
*Ды й дрэмле патроўшку.*
*Альбо возьме й на гулянку*
*Паклікае кошку.*
*З ёю розныя забавы,*
*Жарцікі спраўляе.*
*Так гуляе сабе Янка,*
*Але ня чытае.*
*Ды пытае толькі ў таты:*
*— Калі ужо будзе тое сьвята?..*
*— Гультаю заўсёды сьвята,—*
*Гэтак кажа Янку тата.*

## КОСЬЦЯ

**Сядзіць Косьця за чытанкай,**
**Вершы вывучае.**
**І ад самага ён ранку**
**Ў вокны заглядае.**
**Там на двара Косьцяў Жучак**
**Маркоціцца недзе...**
**— Пабег-бы ты, мой унучак,**
**Пагуляў, як дзеці,—**
**Раіць бабка, шчыра просіць,**
**Яму спагадае.**
**Быў памкнуўся выйсьці Косьця,**
**Ды... кніжка трымае:**
**„Болей цяпер навучышся,**
**Меней потым намучышся“.**



*Ю. Будзяк.*

(З украінскае мовы).

*Апавяданьне А. ЦІТАВАЙ* *Малюнкі ВАЛО*




# ЯКУБАЎ МЯЧЫК

СЁНЬНЯ надвор'е халоднае: дзьме васеньні вецер. Сонейка захавалася за сівыя хмары, якія заслалі ўсё неба.

Але дзеткам не сядзіцца ў хаце. Ня хочацца ім думаць, што мінула ўжо цёплае лета, што цяпер ужо халодная восень. Выбег з хаты Пятрок, гукнуў Давыда і разам пабеглі на школьны двор, дзе заўсёды зьбіраліся дзеці гуляць у розныя гульні.

Скора ўсьлед за імі прыбегла яшчэ некалькі дзяцей і ўсе разам пачалі весела гуляць.

Гуляючы, яны не адчувалі холаду: шчочкі дзяцей зачырванеліся. Вясёлы крык і сьмех рабілі дзень вясялейшым.



Убачыў Якуб у вакно, як гуляюць дзеці. Зайздросна яму стала.

Узяў ён свой мячык. Такі прыгожы быў у Якуба мячык: палавінка яго была чырвоная, а палавінка зялёная, а пасярод жоўценкая палосачка. Гэты мячык прывёз Якубу дні тры таму назад дзядзька з гораду.

І хоча Якуб пагуляць у свой мячык, ды сумна аднаму гуляць. А з хлопцамі гуляць ён ня хоча, бо баіцца, каб яны не папсавалі мячык. Гэткі прыгожы мячык!

Вышаў ён з мячыкам на вуліцу, пастаяў крыху каля варот, потым ціха пайшоў туды, дзе гулялі дзеці.

Дзеці ўбачылі Якуба і закрычалі:

— Хадзі, Якуб, нясі свой мячык, будзем разам гуляць.

Якуб стаяў і не варушыўся.

— Ну, чаго стаіш, Якуб, зьмерзьнеш, холадна. Хадзі гуляць!—гукае яго Жэнька.

— Я ня хочу вам мячык даваць—вы яго папсаваць можаце,—адказвае Якуб.



— Ну, і ня трэба, стой сабе з сваім мячыкам, калі баішся. Мы-ж бы яго палкамі ня білі, а пагулялі-б у чатыры куты. І дзеці пачалі зноў гуляць. А Якуб усё стаяў. Яму ўжо рабілася холадна, нават твар пасінеў. Мячык свой ён трымаў у руцэ.

Падбегла да яго паціху Жэнька, выцяла лёганька па руцэ. Мячык пакаціўся. Жэнька схапіла мячык і пабегла. Якуб усьлед.

— Жэнька, аддай мячык!.. Аддай мячык, бо я мамцы скажу!

Дзеці сьмяюцца, а Якуб бегае за Жэнькай. Якуб пачаў плакаць. Тады Жэнька супынілася, аддала яму мячык і кажа:

— На, твой мячык, Якуб,—ён мне не патрэбен. Але я ўбачыла, што табе ўжо холадна стаяць на адным месцы, вось я і захацела, каб табе стала



цяплей. Бачыш, як цяпер твой твар зачырванеўся. А мячык твой мне не патрэбен.

Якуб стаяў і ня ведаў, што рабіць. Падбеглі да іх дзеці.

— Маладзец, Жэнька,—кажуць яны:—пашкадавала Якуба, што стаіць і мерзьне адзін і зараз гульню прыдумала. Бачыш, як зачырванеўся Якуб...

Якуб і сапраўды пачуў, што яму стала цёпла і неяк весела.

— Ведаеце што,—кажа ён,—будзем разам у мой мячык гуляць, а то аднаму сумна...

І ўсе дзеці са сьмехам і крыкам пачалі гуляць у прыгожы Якубаў мячык. Доўга яшчэ чуваць былі іх галасы на школьным двары.

***********

## ПЕРШЫ СЬНЕГ

*На двары вясёлы сьмех.*
*Сьмех і крык. Гуляюць дзеці...*
*Сёньня ўночы выпаў сьнег*
*На дарожкі і павеці.*

*На даліны і узгоркі,*
*На шырокія шляхі,*
*Нібы беленькія пёркі,*
*Ўпалі лёгкія сьнягі.*

*З тых сьнягоў ля белых сьцен*
*Баба лепіцца, расьце.*
*Вочы—вуглі, нос—бурак,*
*Паламаны кошык—шапка.*

*І ўзьнімаецца вось так*
*Пад дзіцячы рогат бабка.*
*А з гары, пад звонкі сьмех,*
*Сыпле, сыпле лёгкі сьнег.*

*З. АСТАПЕНКА.*



---

## ВЫПІСВАЕМ СТО ЭКЗЭМПЛЯРАЎ ЧАСОПІСІ

*Вучні Крычаўскай сямігодкі выпісалі сто экзэмпляраў часопісі „Іскры Ільліча“. Падпіску мы правялі ў малодшых групах. Пашыраць падпіску сярод вучняў нам памагаў настаўнік Кісялёў Сяргей.*

*Вучні задаволены „Іскрамі Ільліча“ і выклікаюць усе школы падпісацца на гэткі лік часопісі.*

**Якушоў Янка.**






КОСТУСЬ зусім невялічкі хлопчык,—яму толькі яшчэ трэці год. Але ён памагае маме калыхаць меншага брата, заганяць у хлявок куры, нават часам пасьвіць казу.

Ну, а калі каза залезе ў сад, а Костусь ня можа яе адтуль выгнаць, дык ён на ўсю моц крычыць старэйшай сястры Нінцы:—Нінка, бачыш ты, каза пашла сад.

Тут Нінка казу выгане, а з Костуся пасьмяецца:

— Ой ты, пастух. І казу табе пасьвіць цяжка— казе рады не дасі.

І Костуся, як тую казу, цягне ў сад. Бо і сапраўды, у садзе вельмі добра: ёсьць там і яблыкі, і грушы, такія смачныя, салодкія і з горкі ўніз у канец саду бегаць лёгка—самі ногі бягуць. А ў канцы саду плот, а ў плоце дзірка, праз яе пралезшы—выдзеш на чужы двор, а потым і зусім на другую вуліцу.

Костусь гэта крыху ведае, бо ён хадзіў туды пару разоў з Нінкай. Ды яшчэ на тым дварэ ёсьць вельмі харошы і вялікі кот. Завецца ён Мурза. Гэтага ката паглядзець лішні раз нікому не пашкодзіць.

Сёньня мама пайшла ў горад, тата на заводзе, Нінка шые ў хаце, а Міхаська сьпіць. Патупаў Костусь на дварэ каля ганку, няма нешта чым заняцца. Няцікава ўсё.

„Трэба пайсьці Мурзу паглядзець“, надумаў хлопчык, і падаўся ў сад.

З горкі зьбег куляй, праз дзірку ў плоце пералез, на чужым дварэ апынуўся і з цікавасьцю азірнуўся кругом.

Ката ня відаць нідзе, мабыць, у хаце сьпіць, а мо‘ дзе і мышэй пільнуе.

Прайшоў Костусь праз увесь двор, на незнаёмую вуліцу вышаў. Падышоў крыху. Спыніўся, пастаяў—ды зноў уперад падаўся.

Ідзе Костусь усё далей і далей па незнаёмай вуліцы. Доўга ішоў, нават нешта сьпяваў сабе пад нос. Ого ён! Вось ідзе, і нікога не баіцца.

Азірнуўся Костусь кругом: месца незнаёмае, людзі ідуць усё чужыя. Хочацца дахаты, а як вярнуцца, куды ісьці—ня ведае. Страшна Костусю стала. Самі сьлёзы паліліся.



— Маа-ма... Маа-ма...

Ня ідзе ўжо Костусь далей. Спыніўся, з плачам, кліча. Кулачкамі вочкі выцірае.

Ідуць чужыя цёткі. Бачаць—плача хлопчык маленькі, маму жаласна кліча. Пытаюць Костуся:

— Дзе-ж твая мама, дзеткі?

— Пайшла ў горад...—праз сьлёзы кажа Костусь.

— А дзе-ж ты жывеш?

Тут ужо Костусь зусім ня ведае, што і казаць. Ён сапе, шморгае носам і маўчыць.

Нейкая цётка дае яму абаранак, другая цукерку. Костусь усё гэта ў кулачок сьціснуў, плакаць перастаў. Стаіць і кругом азіраецца.

Падыходзяць піонэркі з дзіцячага дому.

Пытаюць яны, што за прычына?

— Ды вось хлопчык нейкі заблудзіўся,—кажуць цёткі.

— Давайце павядзем яго ў свой дом,—кажуць піонэркі.

Дзяўчаткі прывялі Костуся ў свой дзіцячы дом і павялі яго да загадчыцы. Костуся акружылі дзеці.

Убачыўшы столькі дзяцей, Костусь павесялеў і сьмела глядзеў загадчыцы, цёці Зіне, у вочы.

— Дзе-ж твая мама, дзеткі?—пытае цёця Зіна.

— Пайшла ў горад—бойка адказаў Костусь.

— А дзе тата?

— На заводзе.

— А як ты завешся?

— Костусь.

— А як тваё прозьвішча?



Гэтага ўжо Костусь ня ведае. Ня ведае таксама, дзе ён жыве.

—Бачыце, дзеткі,—кажа загадчыца да дзяцей:—у яго, як відаць, ёсьць бацькі. Яны нейдзе шукаюць яго і непакояцца. Трэба яго завесьці ў міліцыю і заявіць, што знайшоўся такі хлопчык.

— Трэба, трэба!—падтрымалі дзіцячыя галасы.

Цёця Зіна разам з піонэрамі павяла Костуся ў міліцыю.

Гэта было як раз недалёка.

Костусь крыху спужаўся, калі пачуў слова „міліцыя“, бо, калі ён дома біўся ці плакаў, дык

Нінка яго страшыла міліцыянэрам. Але ўбачыўшы, што піонэркі ідуць сьмела, і ён пайшоў за імі.

Малады і вясёлы дзяжурны міліцыянэр пажартаваў, пытаючы піонэрак, дзе і як яны знайшлі такую знаходку. Костусь маўчаў, але ня плакаў. Страх яго ужо зусім прапаў.

Костусь астаўся адзін з міліцыянэрам. Міліцыянэр даў яму яблык.

Але не пасьпеў Костусь зьесьці яблык, як адчыніліся дзьверы і ўвайшла нейкая цётка.

— Мама! Мамачка!—Закрычаў Костусь.

— Ах ты, сынок, сынок. Што-ж ты нарабіў? Нінка плача, тата з работы прышоў, шукае цябе. Я ўсіх суседзяў абхадзіла—няма і няма... Хадзем скарэй дахаты.

Мама падзякавала дзяжурнага міліцыянэра і пайшла скарэй з Костусем дамоў.

А Костусь па дарозе расказваў маме ўсё, што з ім здарылася.



*Магутныя трактары зьнішчаць усе межы:*
*Беларусь стане колектыўнай краінай.*




## *ГУЛЬНЯ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ*

### СЬВЯРЧОК

**Трэба загадзя абвясьціць усім дзецям аб гульні. Прызначыць вольны для ўсіх дзень. Настаўнік ці павадыр групы акцябрат няхай добра падрыхтуецца да гульні з групай дзяцей.**

### Пачатак гульні

КАЛІ ўсе зьбяруцца, двое дзяцей праз рупар абвяшчаюць:

— Дзеці! Ці ведаеце вы, хто прыехаў на сьвята нашай дзятвы? Не, вам ніколі не здагадацца, хто тут мае з намі вітацца. Адну хвілінку пацярпеце! Зараз, глядзеце, пачнецца вясёлая гульня, дзеці!

### *ІДЗЕ АКЦЯБРАЦКІ ДЗЕД МАРОЗ*

Усе, хто прымае ўдзел у гульні, ідуць парамі: тут і вяліканы і вучоны мядзьведзь (у паравернутым кажусе) з вясёлым павадыром, фізкультурнікі, маскі розныя і хлопчык-Зюзя (увесь укручаны ў розныя анучы).

У канцы ўсіх ідзе акцябрацкі дзед Мароз. Ён на лыжах, у белым адзеньні, у чырвонаармейскім шлёме, бародка з лёну і г. д. За дзедам вязуць яго санкі, упрыгожаныя істужкамі, елкамі, сьцяжкамі.

Зьверху над санкамі плякат: *„Акцябрацкі дзед Мароз“*. Паход узьнімаецца на горку з музыкай, стукатам, песьнямі:

**Мы зіму спаткаць гатовы,**
**У каўнер ня тулім нос.**
**Ёсьць у нас вясёлы, новы**
**Акцябрацкі дзед Мароз.**
**Ён сябруе з тым, хто сьмелы,**
**Хто зімой з высокіх гор**
**Рэжа лыжамі сьнег белы,**
**Аж гудзіць, шуміць прастор.**

Калі ўсе ўзыдуць на горку, дзед Мароз гаворыць да ўсіх.

### Дзед Мароз

Будзьце здаровенькі, дзеці! Сьнегу-б вам падсыпаць, каб нікуды ні прайсьці ды ні пралезьці. Ну, ніхто не замёрз? Дык будзем сябрамі— я акцябрацкі дзед Мароз.

**Зюзя**

Мне бабка пра цябе гаварыла.

**Дзед Мароз**

Не, ты памыліўся, мілы. Бабка сама не магла нічога ведаць пра мяне, даражэнькі. Я ў маразоў самы маленькі. І ў вас я застаўся нядаўна. Буду начальнікам гэтых гурбаў слаўных.

**Зюзя**

Ой, баюся, ты мяне замарозіш!

**Дзед Мароз**

Не, дзеткі, мяне ня бойся. Я не з такіх, што кожнага марозяць, кожнаму грозяць. Я толькі каля тых люблю пакруціцца, хто холаду баіцца, ня любіць пабегаць на марозе, ня гуляе, а толькі па дзесяць сьвітак на сябе адзявае. Вось хто мне не падабаецца! Чаму ты гэтулькі сьвітак адзеў?

**Зюзя**

Баюся, каб ад халаду не скарчанеў.

**Дзед Мароз**

Ну, хайвай-жа нос і вушы. Ад мяне не абароніць цябе і кажушак. (Музыка, шум. Дзед Мароз і ўсе пачынаюць скакаць кругом ля Зюзі.

Усе хорам прыгаварваюць):



**Раз, два! Дзьмі мацней,**
**Замярзай ты скарэй.**
**Зараз ты, Зюзя, нагамі**
**Не зварухнеш, як карчамі.**
**З сваім адзеньнем ты прапаў,**
**Вось ужо лядзяшкай стаў.**
**А праз гадзіну ці раней, можа,**
**Сапраўдным будзеш марожаным.**

(Спыняюцца ля Зюзі).

**Зюзя**

Ай, скажэце, дзе паратунку шукаць?

**Дзед Мароз**

Ня трэба, як слуп той, на марозе стаяць. Вось глядзі, як скачуць мае хлапцы, фізкультурнікі-малайцы.

(Выходзяць фізкультурнікі, пачынаюць коўзацца на саначках, на лыжах).

**Дзед Мароз**

Вось для іх не бяда халады, кожны з іх дужы і малады. У кожнага здароўе б'е крыніцай, ніхто з іх марозу не баіцца. Раніцой адразу бяз лішняга сказу халоднай вадою вымываюцца, ручніком уціраюцца, да холаду цела прывучаюць. Затое бяды ад мяне ня маюць. У кажухі ды хусткі не хаваюцца, на мяне, Мароза, ня лаюцца. Бярэце Зюзю ў работу!

**Зюзя**

Ну, цяпер у мяне самога ёсьць ахвота! (Дзеці падбягаюць, зьнімаюць з яго лішняе адзеньне, даюць яму саначкі і ляцяць з ім разам з горкі).

**Дзед Мароз**

Ну, а цяпер пачнем прыстаўленьне. Ёсьць у мяне вучоны мядзьведзь, умее ён

людзей пацяшаць скакаць і... нават сьпяваць. З ім суму ня будзеш мець. Пакажы нам, Мішка Махнаты, як мерзнуць на печцы хлапчаняты! (Мядзьведзь крэхча, жмецца).

А скажы—павінен так рабіць акцябронак ці не?

**Мядзьведзь** (тоўстым голасам):

— Не-е!

**Дзед Мароз**

І ты, Мішка, не сядзіш у бярлозе, пайшоў па нашай акцябрацкай дарозе—трохі кумекаеш у нашай рабоце. А вось пакажы нам, як коўзаюцца на каньках па лёдзе. (Мядзьведзь паказвае).

**Дзед Мароз**

А ну, паслухай мяне, Мароза, пакажы ўсім, як яны з санак валяцца ў гурбы носам?

(Мядзьведзь паказвае).

Ці не забалелі ў цябе, Міша, лоб і зубы? Ці ня выцяла цябе гурба?



**Мядзьведзь.**

Не-е, ня чую болі!

**Дзед Мароз.**

Ну, дык даволі. А цяпер, Мішка, даю табе работу: знайдзі дзяцей, якія баяцца зімы і спорту і вядзі іх на горку скарэй.

(Усе ўдзельнікі бяруць дзяцей, якія сабраліся паглядзець гульню, і з жартамі вядуць іх на горку... Тут зьбіраюць усе санкі і пачынаюць коўзацца. У першыя санкі садзяць самых баязьлівых).

## ПАГАВОРКІ ДЗЕДА МАРОЗА

*Хто не лятаў на эрапляне,— садзіся ў сані!*

*Гэй, сядайце, сядайце, хлопцы і дзяўчаткі, прамчаць вас санкі-самакаткі!*

*Сядайце на гэтым месцы і будзеце ляцець вёрст дзьвесьце.*

Тыя, што чакаюць, у гэты час сьпяваюць:

**З гэтай горкі**
**Ясь, Рыгорка**
**Селі ў санкі. Раз!**
**Толькі селі,**
**Паляцелі—**
**Не дагоніш нас!**
**Паляцелі**
**Як хацелі,**
**Ды з разгону—ух!**
**Ясь з Рыгоркам**
**Проста з горкі**
**Ды у гурбу—бух!**
**Але далей**
**Зноў памчалі**
**Санкі на гару.**
**Крык нясецца,**
**Усё сьмяецца**
**У гэтую пару.**

Пераклаў з расейскае **А. Я—віч.**

# Голуб-лістаносец

*Малюнкі А. ТАЧЫНЫ*

У школе настаўнік доўга гутарыў пра галубоў. Ён казаў, што іх можна скарыстаць як лістаносцаў.

Гэта было зімою, калі мы вучыліся. І вось я надумала паспрабаваць разводзіць галубоў. Я з галубамі вельмі пасябравала, бяру іх на рукі і яны не палохаюцца мяне. За лета я выгадавала 18 пар галубоў.

Але не пра гэта я хачу расказаць. А вось пра што. Улетку я пасьвіла каровы. Пасьвіла часта адна. Ганяла на ўвесь дзень. Паша ў нас не на адным месцы. Дык мне трэба было неяк паведамляць дамоў, дзе я пасу, каб мне маглі прынесьці з дому есьці.

Як жа мне наказаць дамоў? А вось як гэта я рабіла. Брала з дому раніцай галуба. Удзень я пісала запіску, прывязвала яе да галубовай ножкі і пускала галуба. Ён ляцеў дамоў, а там бацькі ўжо маглі даведацца, дзе я пасу і прыносілі мне гарачую яду.

Я выношу прапанову, каб усе вучні разводзілі галубоў.

У час вайны з ворагамі працоўных галубы могуць быць добра скарыстаны для перадачы паведамленьняў.

ДУБІНЕЦ ПРОСЬКА.

Харытанцаўская школа,
Чарэйскага павету.



# ЦІ МАЮЦЬ ЖЫВЁЛЫ РОЗУМ

## САБАКА, ЯКІ РАЗУМЕЕ МЫСЬЛІ

Вучоныя ўжо даўно цікавяцца пытаньнем—ці маюць жывёлы розум? Над жывёлamі дзеля гэтага праводзяцца розныя вопыты.

Асабліва цікавыя вопыты расійскага вучонага Дурава.

Па загаду Дурава сабака прыносіў яму розныя рэчы.

Гэта рабілася такім чынам:

Сабака знаходзіўся за вялікай клеткай, дзе сядзеў сам Дураў. Клетка з усіх бакоў была закрыта. Дураў мысьлена даваў загад:

— Прынясі шчотку з стала.

Сабака прыносіў.

— Падыдзі да вучонага зьлева.

Сабака падыходзіў.

Цікава, што сабака разумее нават мысьлі вучонага.

## САБАКА-ЛІСТАНОСЕЦ

У нямецкага вучонага Мельлера ёсьць сабака Дольф. Гэты сабака разумее звыш сотні слоў на нямецкай мове. З ім можна гутарыць так, як гутараць з чатырохгадовым дзіцем.

У другога вучонага ёсьць сабака, які сьвядома выконвае розныя даручэньні: носіць лісты да знаёмых гэтага вучонага. Ён ніколі не памыляецца, хоць у вучонага восем знаёмых і жывуць у розных мясцох.

Гэты-ж сабака праводзіць сына гэтага вучонага ў школу і не дазваляе яму выходзіць за тратуар, каб што не наехала на малога.

Такіх прыкладаў вельмі шмат.




*Ганс піша цыфры мелам на дошцы.*

## АРАБСКІ ЖАРАБЕЦ ГАНС

У Нямеччыне, у Эберфельдзе, доктар Мюльбах праводзіў вопыт над двума арабскімі жарабцамі. Доктар вучыў іх арытмэтыцы: складаць, дзяліць, вылічаць. Адзін з жарабцоў здох. Было даведзена, што ён здох ад таго, што вельмі стаміліся яго мазгі. Другі жарабец вытрымаў навуку. Ён лёгка разьвязваў невялічкія задачы.

Завуць гэтага жарабца Гансам. Ён піша цыфры (мелам на дошцы, трымаючы мел у зубах) зусім сьвядома.



*Сабака-вартаўнік.*

Доктар пытае ў Ганса:

— Ганс, колькі будзе пяць і дванаццаць?

І Ганс піша мелам—17.

## САБАКА ВЕДАЕ СОРАМ

У адным з маскоўскіх гадавальнікаў сабаку было даручана пільнаваць чамайдан з рэчамі. Да сабакі падышлі два другія сабакі, якія пачалі дражніцца з сабакам-вартаўніком. Сабака-вартаўнік доўга адганяў іх ад сябе, а потым кінуў рэчы і стаў сам гуляць.

Пасьля гэтага наглядчык даручыў пільнаваць рэчы іншаму сабаку. Ранейшы сабака-вартаўнік убачыў, што яму наглядчык не даручае работы, ня лічыцца з ім, і ён пачаў худзець, занудзіўся. І толькі, калі зноў яму даручылі ранейшую работу, сабака стаў папраўляцца.

Адзін чалавек, гуляючы ў лесе са сваім вымуштраваным сабакам, пакаціўся і зламаў сабе нагу. Сабака кінуўся бегчы дахаты. Там ён не даваў супакою хатнім, аж пакуль яны не пайшлі за ім і не знайшлі пакалечанага чалавека.

* * *

Гэтыя вопыты даводзяць нам, што жывёлы маюць розум, хоць і вельмі слабы, няразьвіты.

Ня дзіўным будзе, калі скора вучоныя знойдуць такія спосабы, каб лёгка навучаць жывёл сьвядома рабіць пэўную работу.

З нарысу **Б. Аленіна**
„Опыты в Эберфэльде“;



**Пінгвіны**—*бяскрылыя птушкі. Жывуць яны на выспах ледавітага акіяну. Цікава, што пінгвіны стаяць і ходзяць ня так, як усе птушкі, а проста, як гэта відаць на малюнку. З дюбаў пінгвінаў вырабляюць замш.*



**Дзік**—*з Нью-Ёрскага зьвярынца. Гэты дзік—самая брыдкая жывёліна з усіх зьвяроў, што знаходзяцца ў зьвярынцы.*

# КІМ МЫ БУДЗЕМ?

Мал. А. Зубава.

Мяне тата вучыць, як трэба кіраваць аўтомобілем. Вырасту буду таксама шоферам, як мой тата.





Я ўмею варыць суп, мыць пасуду, мне па абаецца быць хатняй гаспадыняй.

Вось вылячыў Шарыка. Добры з мяне доктар будзе. Паступлю ў школу, потым ва унівэрсытэт, і стану сапраўдным доктарам.






Я люблю маляваць, Пакуль што малюю кепска, але вось павучуся, падрасту, тады буду добрым мастаком і, калі захочаце, намалюю з вас партрэты.

Глядзеце, як у мяне добра працуюць дзьве машыны. Як выраcту вялікім, буду інжынэрам і пабудую добрую фабрыку.



Добра быць настаўніцаю—буду вучыць дзяцей грамаце, кніжкі ім чытаць і на экскурсіі хадзіць.




Вырасту вялікім, стану сапраўднай швачкай і паступлю на службу ў Меншвэй.



Я буду рабочым—сьлесарам. Пакуль што папраўляю вёдры, тазы і іншыя жалезныя рэчы.



Як сабе хочаце, а я буду лятуном і палячу на самалёце ў Кітай, у Афрыку.



Памаляваў я дома ўсе вёдры, крэслы, сталы, лавы, — цяпер шчыкеты пачаў... Эх, добра быць маляром.





Дзеці! Кім-бы мы ні рыхтаваліся быць — але перш за ўсё трэба вучыцца.

# ЦІКАВЫЯ ПТУШКІ

### Афрыканскі стравус

Уявеце сабе птушку, вышыня якой дасягае да 2½ мэтраў, а вага 80 кілёграмаў (5 пудоў). Птушка гэта ня можа лётаць. Яна мае маленькія крыльлі і вельмі моцныя і доўгія ногі. Адзін шаг яе займае 4—5 мэтраў. За адну гадзіну прабягае яна звыш 40 кілёмэтраў.



*Ківі-Ківі.*

Яйка стравуса важыць 800 грамаў. Жыве гэта птушка ў стэпах Афрыкі. Называюць яе—афрыканскі стравус, Людзі езьдзяць на стравусах конна. а часам запрагаюць іх у маленькія двухколкі дзеля перавозкі цяжараў.

### Ківі-ківі

У Аўстраліі жыве птушка, якую называюць ківі-ківі.

Велічынёй яна будзе з нашу курыцу.

Ногі яна мае кароценькія, а дзюбу даўгую.

Ківі-ківі ня можа шпарка бегаць, ды і лётаць ня ўмее. Яна даўно загінула-б ад сваіх ворагаў. каб удзень не хавалася ў кусты. Толькі ноччу яна выходзіць за спажывай, якую адшуквае доўгаю дзюбаю, з добра разьвітым нюхам.



*Дронт.*

## Качка-параход

А вось яшчэ цікавая птушка, якую называюць „качка-параход“. Яна жыве каля берагоў самай паўднёвай часткі Паўднёвай Амэрыкі. Па велічыне яна значна большая за звычайную качку. Важыць яна ад 5-ці да 10-ці кілёграмаў. Мае яна маленькія крыльлі, якія патрэбны ёй дзеля плаваньня. Крыльлі гэтай птушкі верцяцца, як колы парахода. Дзякуючы гэтым крыльлям яна можа за адну гадзіну праплыць звыш 100 кілёмэтраў.

## Цікавыя галубы

На Вялікім альбо Ціхім акіяне ёсьць выспа Самоа. На гэту выспу калісьці заляцелі галубы. Людзей і жывёл, якія-б пагражалі гэтым галубом, на высьпе ня было. Дзякуючы гэтаму, галубы страцілі здольнасьць лётаць. Ім ня было каго баяцца. Гнёзды свае яны пачалі рабіць на зямлі. Потым сюды зьявіліся і людзі. Галубы пачалі вучыцца лётаць і цяпер ужо гнёзды ўюць на дрэвах.

## Дронты

Такая самая гісторыя адбывалася з дронтамі на другой высьпе, якая завецца Маврыкія. Але дронты, калі зьявіліся на іх высьпе людзі, не навучыліся лётаць, і праз гэта ўсе былі зьнішчаны чалавекам.

## Вынікі

Жыцьцё і пабудова цела вышэйпералічаных птушак паказвае нам, як умовы жыцьця робяць уплыў на організм той ці іншай жывёлы. Дзякуючы ўмовам жыцьця, некаторыя птушкі страцілі здольнасьць лётаць, а потым страцілі зусім і крыльлі, як непатрэбныя. Бегаючыя галубы, дзякуючы гэтым-жа ўмовам жыцьця, зноў набылі здольнасьць лётаць у паветры. А дронтам, якія не змаглі ўжо набыць здольнасьці лётаць, прышлося загінуць.

**Поляк А.**



*Людзі запрагаюць страусаў і езьдзяць на іх.*




Апавяданьне Л. ЧАРНЯЎСКАЙ.
Малюнкі М. МУРАШОВА

ЛЯВОНКА вярнуўся са школы дамоў вельмі заклапочаны.

Дзьверы былі зачынены, але ён ведаў, што бацька і маці сёньня абое былі на працы. Ён падышоў да шафкі, што стаяла ў калідоры, і намацаў рукою на ўмоўленым месцы ключ.

У пакоі няма нікога, але пакой прыбраны, ложкі засланы.

Лявонкаў бацька манцёр, а маці санітарка ў дзіцячай клініцы.



Бацькава праца падабаецца Лявонку. Ня раз з зайздрасьцю, праўда і са страхам, назіраў Лявонка, як, начапіўшы на ногі вялікія жалезныя „кіпці“, глэбаецца бацька на слуп і там нацягвае медзяныя драты электраправодкі.

— Цікавая праца!—думае Лявонка. А маці заўсёды бядуе, каб не застудзіўся бацька на дварэ, каб не зваліўся са слупа, каб не пакалечыла, не забіла яго электрычным токам.

А Лявонку бацька здаецца такім дужым і спрытным, што ніякае ліха яго ня возьме.

Лявонка вучыцца ў першай клясе ў сямігодцы. З таго часу, як перайшоў ён з дзіцячага саду ў школу, пачаў лічыць сябе Лявонка самастойным чалавекам. І яго бацькі сьмела пакідаюць на Лявонку хату. Ведаюць, што прышоўшы са школы, ён сам сябе дагледзіць.

Толькі яшчэ да гэтага часу па вечарох ідзе ў яго вайна са шнуркамі ад боцікаў. Раніцою зашнуруе ён боцікі, завяжа шнуркі такім моцным вузельчыкам. Але як ні стараецца, іншы раз

ўдзень шнуркі паразьвязваюцца і цягаюцца па зямлі. Завяжа іх насьпех, зноў разьвяжуцца... Тады Лявонка навяжа не адзін вузел, а тры, чатыры.

Затое ўвечары доўга сядзіць ён, разьвязваючы тугія вузлы. Спачатку толькі моўчкі сапе носам, потым ад нецярплівасьці пачынае гневацца і бурчыць уголас: „Вось, каб цябе!.. Хоць ты зубамі грызі...“

Сёньня Лявонку не аб шнурках клопат. Сёньня іхная першая кляса пайшла на спаборніцтва з другою: каторая кляса зьбярэ больш мяшкоў на бульбу.

Лявонка вельмі загарэўся, каб яны, меншыя, прынясьлі больш мяшкоў...

Бацькі прыдуць толькі каля пятай гадзіны. Каб-жа гэта вось зараз даведацца: ці ёсьць дзе які мех?

Лявонка, дні два таму будзе, бачыў, як давала маці мяшок мопраўцам, што першыя арганізавалі збор мяшкоў.

А ці знойдзецца ў маткі другі мяшок?..

Лявонка, зазвычай, як прыходзіў са школы, браўся сьнедаць, а сёньня і есьці ня хочацца.

Пастаяў ён сярод пакою, аглядзеўся вакол і задумаўся: дз гэта мама хавае свае мяшкі?..

Падышоў да шафкі, выцягнуў шуфлядку ўнізе. Там толькі чыстыя ручнікі і сьціркі грудком ляжаць. Падняў века ад скрынкі, дзе брудная бялізна хаваецца; перакінуў яе, перакінуў,—няма мяшка.

Што зробіш, трэба чакаць маткі.

І першым словам у Лявонкі, ледзь толькі маці пераступіла парог пакою, было:

— Дай мне, мама, мяшок!

— Мяшок!?

— А хіба ты ня ведаеш, што цяпер у гарады чырвоныя



*„Добры мяшок“*

абозы ідуць са збожжам, з бульбаю, а мяшкоў не хапае. Няма куды бульбу сыпаць...

— Дзіцятка ты маё,—перапыніла маці.

— Усё гэта я ведаю. Дай ты мне хоць распрануцца. Ды адзін мяшок я дала ўжо, ты-ж сам бачыў...

— Адзін!.. Дык гэта мопраўцам...—адказаў Лявонка.—А ў нас спаборніцтва з другою клясаю. Не прынясу я, не прынясе другі, дык што тады будзе?.. А яшчэ сьвядомая...—упікнуў Лявонка матку.

— А ты не сварыся, сын,—зноў перапыніла маці.—А то ты крычыш, я пачну крычаць, дык што ў нас будзе? Калі мяшок патрэбны, я пашукаю...

Лявонка засароміўся і сьціх.

Нарэшце, паабедаўшы, прыбраўшы начыньне, вышла маці ў калідор і адтуль прынесла мяшок.

Хлопчык агледзіў яго з усіх бакоў і, каб зрабіць прыемнасьць матцы, пахваліў: Добры мяшок. Добры мяшок!.. І заспакоены, заняўся сваімі вучнёўскімі справамі.

Раніцою, як толькі загудзеў гудок на заводзе, прабудзіўся Лявонка. Устаў, памыўся, адзеўся і першым чынам ухапіўся за свой мяшок. І ўбачыў ён з правага боку маленькую дзірачку.

Ледзь не заплакаў Лявонка і сказаў з вялікім жалем:

— Што-ж ты мне дзіравы мяшок дала? Га?

Некалі матцы, але пачуўшы такі жаль у Лявонкавым голасе, яна сказала:

— Ну, дай, я табе латку прыстаўлю.

І ў некалькі махаў рукі залатала дзірачку.

Цяпер усё ў парадку. Мяшок агледжаны, скручаны, і Лявонка панёс яго пад пахаю ў школу.



*І Лявонка панёс яго пад пахаю ў школу.*

Увечары таго самага дня хлопчык казаў матцы:

— А што! Каб ты мне не дала мяшка, наша кляса асталася-б ад другой. А так пароўну мяшкоў.

# ЦІКАВАЕ ПАЛЯВАНЬНЕ

ДАЛЁКА ад нас, у Сібіры, ёсьць бязьмежныя стэпы. Там ёсьць краіна, якая завецца Казакстанам. Жывуць у гэтай краіне казакі-кіргізы. Займаюцца яны жывёлагадоўляй.



Але дзе многа жывёлы, там многа і ваўкоў. Казакі-кіргізы лічаць ваўка самым лютым сваім ворагам. Бо нямала авец, ягнят і жарабят гіне ад вострых воўчых зубоў.

І вось кіргізы ўсялякімі спосабамі стараюцца адпомсьціць ваўку. Яны садзяцца на сваіх быстрых коняй, бяруць доўгія спусныя бізуны і едуць у стэп біць ваўкоў. На канцы ў бізуне ўшыта валаваяная куля. Гэта, каб мацней ваўку балела.

Бяда цяпер шэраму ваўку! Далёка ўбачаць яго зоркія вочы кіргіза. З дзікім крыкам, шумам імчацца кіргізы на ваўка. Але вось і дагналі. Удар за ўдарам пасьвісталі на шэрага.

Шкура воўчая ўся ў крыві, пасечана бязьлітаснымі бізунамі. Воўк, як шалёны, імчыцца з апошняй сілы. Аднак быстрыя коні пасьпяваюць за воўкам.

Нарэшце, воўк ня вытрымлівае і падае на зямлю. Тут яго і дабіваюць... Засякуць так са злосьцю аднаго ваўка ды едуць шукаць больш.

# АДКУЛЬ ЗЬЯВІЛІСЯ „КОЛЯДЫ“

**Нарыс А. ПОЛЯКА**



*Мал. № 2—Хрысьціянскія яські з Ісусам.*

Рэлігійныя людзі думаюць, што „коляды“ ёсьць сьвята, калі нарадзіўся іх бог Ісус хрыстос.

Яны як-бы нават ведаюць дзень і год гэтага нараджэньня, бо сьвята сваё спраўляюць 25 сьнежня.

Але вось цікавая рэч, што і іншыя нехрысьціянскія (паганскія) багі, у якіх людзі верылі раней, чым у хрыста, нарадзіліся таксама 25 сьнежня. І гэта ня гледзячы на тое, што яны радзіліся ў розныя часы.

Усе багі як-бы згаварыліся радзіцца абавязкова 25 сьнежня, а ня ў другі які-небудзь час.

25 сьнежня нарадзіўся эгіпецкі [1]) бог Азірыс, вавілонскі бог Тамуз, індускі бог Агні, пэрсыцкі — Мітра, фрыгійскі—Аціс, малаазійскі—Адоніс, хрысьціянскі—Ісус і г. д.

Цікава, чаму ўсе багі нарадзіліся 25 сьнежня?

Каб адказаць на гэта пытаньне, пагутарым раней аб тым, што наогул прымусіла людзей выдумаць багоў і верыць ім.

Першым пачаў верыць у багоў першабытны чалавек-дзікун.

Жыў гэты чалавек на абшарах зямлі. Яго акружалі з усіх бакоў розныя драпежныя зьвяры. Камень і палка былі зброяй гэтага дзікуна. Ня ўмеў ён будаваць сабе хаты і шыць вопраткі. Ня было тады свойскай жывёлы і свойскіх расьлін. Жывіўся чалавек чарвямі, карэньчыкамі



*Мал. № 1—Індускія яські з Агніем.*



*Мал. № 3—Індуская матка боская.*

[1]) Паглядзі на школьнай мапе, дзе знаходзяцца гэтыя краіны; калі што не зразумееш, папрасі настаўніка—няхай растлумачыць.

дзікіх расьлін і тымі жывёламі, якіх ён мог забіць палкай ці каменем. Холад і голад мучылі яго кожны дзень.

Назіраў гэты дзікун гром, вецер, дождж, сьнег, сонца, восень, зіму, вясну, лета, але не разумеў гэтых зьяў прыроды і таму лічыў, што гэта ўсё залежыць ад нейкіх добрых ці злых істотаў. Потым гэтых „істотаў" пачалі зваць багамі. Чалавек-дзікун пачаў ім маліцца і прыносіць розныя ахвяры.

Вось што прымусіла чалавека стварыць сабе багоў і верыць у іх.

Цяпер ня цяжка нам будзе здагадацца, чаму ўсе багі родзяцца 25 сьнежня.

Падумайце—якія зьявы прыроды мы можам назіраць у сьнежні месяцы? Вы адкажаце, што 21 сьнежня бывае самы кароткі дзень і самая доўгая ноч. З 25 сьнежня дзень увачывідкі пачынае павялічвацца. З гэтага часу сонца з кожным днём усё больш і больш пасылае на зямлю свае цёплыя прамені. Людзі кажуць, што зараз сонца павярнула ўжо на вясну.



*Мал. № 5—Мар'я з Ісусам уцякае ў Эгіпет.*

Бачыў гэта і першабытны дзікун. Чакаў ён больш за нас цёплай вясны і па зорках вылічваў гэты зварот сонца. Ён мысьліў, што бог сонца, які паступова паміраў, 25 сьнежня[1]) зноў нараджаўся, каб абагрэць замярзаючага галоднага чалавека. Вось дзякуючы чаму ўсе багі родзяцца 25 сьнежня, калі сонца паварачвае на вясну. Бо-ж усе першабытныя дзікуны, у якой-бы частцы сьвету яны ня жылі, мелі аднальковыя ўмовы жыцьця, розум і інш.



*Мал. № 4—Буда з яго маткай.*

Адсюль мы можам зрабіць вынік, што ні Хрыстос ні іншыя багі *ніколі не радзіліся*, а сьвята гэта запазычана ў першабытнага дзікуна.

А што гэта так, то мы можам бачыць нават з самай галоўнай песьні, якую папы сьпяваюць на „коляды". Там ёсьць такія словы: „возсія міру сьвет" (сьвятло), і г. д.



*Мал. № 6—Эгіпецкая багіня Ізіда ўцякае з сынам Горусам з Эгіпту.*

[1]) Пэўна-ж дзікун ня лічыў часу па месяцах. Гэта ўжо пазьней увялі месяцы. Але час павароту сонца заўсёды адзін. Па нашым календары ён прыпадае на 25 сьнежня.

Яшчэ больш яскрава гэта мы бачым па малюнках нехрысьціянскіх і хрысьціянскіх багоў.

Вось вам малюнак № 1—нараджэньне нехрысьціянскага інускага бога. Гэты малюнак узяты з сьвятых індускіх кніг, так званых „Вед“. Параўнайце гэты малюнак з хрысьціянскім абразом нараджэньня хрыста—№ 2. Вы тут у галоўным ня знойдзеце аніякай розьніцы.

А вось вам два малюнкі маткі—мал. № 3 і № 4. Параўнайце гэтыя малюнкі з боскай маткай, якую малююць рэлігійныя хрысьціяне на абразох. І тут вы ня ўбачыце аніякай розьніцы.

Зірнеце на малюнак № 5—маткі боскай Мар'і з сынам Ісусам, якія ўцякаюць у Эгіпет, і на малюнак № 6—эгіпецкай багіні Ізіды з сваім сынам—богам Горусам, дзе яны ўцякаюць з Эгіпту. Тут таксама няма розьніцы.

Усе гэтыя малюнкі гавораць аб тым, што хрысьціяне запазычылі сабе бога і рэлігію ў першабытных людзей.



*З такой дубальтоўкі застрэлю і воўка.*



# СВАЕ І ЧУЖЫЯ



**ДУРАСЬЛІВЕЦ Янка ўбачыў пад страхой ластаўчыны гнёзды. Узьлез па вуглох па страху, зірнуў і ўбачыў у адным гнязьдз двое птушанят, зірнуў у другое—і там был двое птушанят.**

**Яму захацелася падражніцца з ластаўкам і паглядзець, што з гэтага будзе. Ён узяў пералажыў птушанят у гнёздах: з першаг гнязда палажыў у другое, а з другога—у першае.**

**Калі ластавачкі прыляцелі ў гнёзды, Янк чакаў, што вось-вось яны пачнуць выкідац чужых дзяцей. Але ластавачкі і ня думалі пр гэта. Чужых дзяцей яны прызналі як сваі кармілі і клапаціліся аб іх.**

*А—віч.*

# ПАДУМАЙ




## ЧАТЫРЫ РЭБУСЫ

Паспрабуйце самі разгадаць гэтыя рэбусы. Разгадкі прышлеце ў рэдакцыю. У чарговым нумары мы раскажам, як разгадаць рэбусы.

## ЗДАГАДЛІВЫ ХЛОПЧЫК

Аднаму хлопчыку загадалі такую загадку:

— Беглі па полі тры зайчыкі. Усе яны былі бяз вушэй. Але вось там яны знайшлі тры вушкі. Гэтыя вушкі зайчыкі падзялілі так, што кожнаму прыпала па пары вушак,—як гэта яны падзялілі?

— А вось так,—адказвае хлопчык,—і намаляваў трох зайчыкаў з вушкамі. Як бычыце, ён не памыліўся: кожны зайчык мае два вушкі.



## ЗАГАДКІ

— Сіненькая, маленькая, але ўвесь сьвет адзявае.

*

— Сівы вол выпіў вады дол.

*

— Без сякеры, бяз кліна на рацэ мост зрабіў.

*

— Ляжыць калода сярод балота, ні гніе, ні сохне.

## ЦІ ДОБРА ТЫ БАЧЫШ?



Які з гэтых рысункаў шырэйшы— верхні ці ніжні? Паспрабуйце адказаць спачатку на вока, а потым памерайце і праверце.

## ЖАРТЫ

— Сымонка, ты што робіш, ня трэба цягаць ката за хвост.

— Я-ж не цягну! Я толькі трымаю за хвост, а кот сам цягне.

*

— Дзяўчынка, твая маці дома?

— Не, дзядзечка, вышла некуды.

— А скора-ж яна вернецца?

— Пачакайце: як прыдзе—запытаюся.

Друк. БДВ. Зак. № 801. У ліку 3200 экз. Галоўлітбел № 595.

ЦАНА 18 КАП.

# ЯК ХЛОПЦЫ АД КРАКАДЗІЛА ВЫРАТАВАЛІСЯ

*Па гэтых малюнках злажэце самі апавяданьне*















*Умовы падпіскі глядзі на 1-ай старонцы.*

